



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

2 лістапада 2018 года №44 (1227)


# Вілейчукі частуюць яблыкамі па-беларуску

На цэнтральнай плошчы і вуліцах Вілейкі грамадзяне пакідаюць пакеты з яблыкамі. Пачаставацца можа кожны!

Фота Вольгі ШЛЯПО.



## У Шылавічах пад Вілейкай Міністэрства абароны Расіі размясціла комплексы «Самарканд»


старонка 4



ISSN 1991–7155






Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

## Навучэнка з Маладзечна атрымала медаль за пернікі на міжнародным конкурсе кандытараў

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 23 да 26 кастрычніка ў рамках 24-й Міжнароднай спецыялізаванай аптовай выставы-кірмашу «Прадэкспа-2018» ладзілі міжнародны чэмпіянат кандытарскага мастацтва.

У каманду Міншчыны ўвайшлі навучэнцы з Маладзечна.

Навучэнка Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа **Віялета Паплаўская** атрымала медаль вышэйшай пробы ў намінацыі «Мастацкі выраб з цеста. Пернікі ручной работы».

**Паводле ўпраўлення адукацыі Мінаблвыканкама.**

## Дабрачынны марафон да Дня інвалідаў стартуе ў Вілейцы 1 лістапада

ВІЛЕЙКА

Ад 1 лістапада да 14 снежня на Вілейшчыне правядуць штогадовы дабрачынны марафон «Рабі вялікае, не чакаючы вялікага», прымеркаваны да Дня інвалідаў, які адзначаюць 3 снежня.

Марафон праводзіцца кожны год з мэтай аказання дапамогі і падтрымкі людзям з інваліднасцю, а таксама каб прыцягнуць увагу да іх праблем.

Ініцыятарам марафону выступае Вілейскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва пры падтрымцы Вілейскага райвыканкама.

**Рэквізіты:**
BY81AKBB36420632001076100000 у ЦБП №632, Вілейка, філіял №601 ААТ «АСБ Беларусбанк», Маладзечна, УНП 600690567, код банка AKBBBY21601.

Атрымальнік: ГУ «Вілейскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва» (з пазнакай «Дабрачынны марафон»).

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэлефонах: 8 (01771) 2-99-72, 2-18-33, 2-26-28.

**Паводле МЛЫН.BY**

## «Зубраня» будзе супрацоўнічаць з «Арлянём»

МЯДЗЕЛ

На V Форуме рэгіёнаў Беларусі і Расіі ў Магілёве прадстаўнікі дзіцячых цэнтраў «Зубраня» і «Арляня» падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве.

Цяпер гэтыя два цэнтры будуць узаемадзейнічаць у падрыхтоўцы педагогаў. Таксама дзеці і супрацоўнікі паўдзельнічаюць у міжнародных праектах, якія ладзяць дзіцячыя цэнтры, распавялі ў Мядзельскім райвыканкаме.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пра ўраджэнца Вілейшчыны гаварылі Лукашэнка з Парашэнкам

ВІЛЕЙКА

26 кастрычніка падчас Форуму рэгіёнаў у Гомелі Пётр Парашэнка сказаў Аляксандру Лукашэнку, што дзяржавы дамовяцца аб устаноўцы помніка ў Мінску **Піліпу Орліку**, ураджэнцу вёскі Касута, што на Вілейшчыне.

Орлік увайшоў у гісторыю як гетман Запарожскага войска ў выгнанні (1710–1742), аўтар першай Канстытуцыі Украіны.

Памятны знак Піліку Орліку ў 2006 годзе паставілі ў Касуце. Ёсць помнік і ў Кіеве. Імем Орліка названая вуліца ў Вілейцы.

Штогод украінская суполка з Маладзечна «Краяны» прыязджае ў Касуту, каб ушанаваць памяць Піліпа Орліка.

**Паводле Радыё Свабода.**

## Са студзеня 2019 года тарыфы ЖКГ павысяцца не больш чым на 5 долараў

Падыходы пры разліку тарыфаў на паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі змяняць не плануецца. Пра гэта паведаміў журналістам у парламенце 31 кастрычніка намеснік прэм'ер-міністра **Уладзімір Кухараў**.

Па словах віцэ-прэм'ера, праведзеная вялікая праца Міністэрствам ЖКГ, а таксама на ўзроўні мясцовай улады. Атрыманыя дадзеныя ўсіх аблвыканкамаў па планава-разліковых памерах тарыфаў на наступны год. Гэта інфармацыя абагульненая Міністэрствам ЖКГ і ўжо перададзеная ў МАРГ.

– Міністэрства энергетыкі цяпер завяршае разлік паліўных балансаў па сваіх аб'ектах. Да сярэдзіны лістапада мы падрыхтуем выніковы нарматыўны дакумент. Можна з упэўненасцю сказаць, што тарыфы павысяць не больш чым на 5 долараў, – заявіў Уладзімір Кухараў.

**Паводле МЛЫН.BY.**



Так выглядаў ганак да рамонту.

# Абяцалі праз год – зрабілі праз чатыры гадзіны

## Ганак адрамантавалі, як толькі «РГ» звярнулася у ЖРЭУ па каментар

МАЛАДЗЕЧНА

**Хаця ў асабістай размове начальнік ЖРЭУ №3 казаў, што ганак адрамантуюць толькі ў наступным годзе. Як паведамляюць жыхары дома, замазваць расколіну пачалі праз чатыры гадзіны.**

У рэдакцыю «РГ» звярнулася маладзечанка **Ірына**. Некалькі месяцаў яна спрабавала «дагрукацца» да «Камунальніка». Спадзявалася, што нарэшце адрамантуюць ганак пад'езда, які развальваўся.

– У маі і чэрвені тэлефанавалі дыспетчару домаўпраўлення №4. Сказалі, ідуць дажджы, рабіць нічога не будуць. Ад 1 жніўня дом перайшоў на баланс домаўпраўлення №3. Таму 17 верасня асабіста падала ліст у двух экзэмплярах ужо ў новае ЖРЭУ, зарэгістравала. Сказалі, чакайце адказу. Больш за месяц прайшло, а адказу дагэтуль няма.

Скаргу Ірына напісала на імя начальніка ЖРЭУ-3 **Сяргея Анопа**. Прасіла адрамантаваць ганак, умацаваць яго, абкласці пліткай, зрабіць пандус для калясак. Адрамантаваць пляцоўку паміж уваходам у пад'езд і падвал, заасфальтаваць гэты ўчастак. І адрамантаваць апорную сцяну ўздоўж прыступак падвала і непасрэдна самі прыступкі ў яго. Да ліста прыклала фота.

### Што нам адказалі ў ЖРЭУ

Наш карэспандэнт звярнуўся ў ЖРЭУ. Спрабавалі дазваніцца тры дні ў розныя гадзіны. Трубку акрамя дыспетчара ніхто не здымаў.

Пры асабістым звароце ўдалося атрымаць каментар начальніка ЖРЭУ Сяргея Анопа.

– Я даваў Ірыне адказ, што гэта работы бягучага рамонту, якія павінны быць забяспечаны фінансаваннем і ўваходзіць у план. Патлумачылі, што ўключым у план на наступны год пры выдзяленні фінансавання. Быў пісьмовы адказ, які павінны быў прыйсці цягам 15 дзён.

– Ірына кажа, што яго не было.

– Тады прадублюем, я сабе пазначу.

– Чаму да вас немагчыма датэлефанавацца?

– Бо мы не сядзім на месцы.

> **– Сёлета рамонту не будзе?**
> **– Калі нешта пагражае жыццю ці здароўю…**
> **– Ірына пісала, што расколіна небяспечная для дарослых і дзяцей.**
> **– …калі там «трэшчынка» нейкая – гэта планавыя працы, – паведаміў Сяргей Аноп.**

Памералі расколіну. Глыбіня – прыкладна 13 сантыметраў. Шырыня – ад двух да 20.

Ірына запэўніла, што адказу дакладна не атрымалі, яго чакалі, таму сачылі за поштай.

**Але праз чатыры гадзіны пасля размовы мы атрымалі паведамленне ад жыхароў дома. У ім было сказана, што ганак нарэшце пачалі рамантаваць.**

Калі праз некалькі дзён мы звярнуліся да Сяргея Анопа, каментар ён даваць адмовіўся.

### Што рабіць, калі вам не адказваюць

Мінскі незалежны гарадскі актывіст **Антон Матолька** параіў, што рабіць, калі вам не адказваюць на зварот.

– Павінны былі паведаміць, калі для разгляду патрабуецца больш за месяц. У падобных выпадках варта звяртацца ў пракуратуру за «неадказ» на зварот у тэрмін. Прыклад звароту можна знайсці па спасылцы **faq.rfrm.io**.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Колькі зарабляе на Астравецкай АЭС гастарбайтар з Расіі

СМАРГОНЬ
АСТРАВЕЦ

**Дзмітры* працуе электрамантажнікам на Астравецкай АЭС. Атрымлівае прыкладна 1600 рублёў заробку. Прызнаецца, што прыехаў з Расіі, каб зарабіць. Яго праца заключаная ў пракладцы кабелю і яго падключэнні.**



На што трацiць грошы работнік Астравецкай АЭС?

Жыве на найманай кватэры. Яе аплачвае расійская фірма, ад якой мужчына працуе на станцыі. Жыве ў Смаргоні. На АЭС і дадому возіць мікрааўтобус, яго таксама забяспечвае фірма. Рабочую форму выдаюць.

Адзенне і абутак для паўсядзённага жыцця набывае сам. Прыкладна раз на паўгода траціць ад 100 да 700 рублёў. Залежыць ад таго, што падабаецца і колькі грошай узяў з сабой. У гэтым месяцы нічога не набываў.

### Дасылае грошы родным

На мабільны тэлефон сыходзіць 18 рублёў. На інтэрнэт – 30.

– Не эканомлю і не запашу ні на што, бо нічога не трэба. Грошы, якія засталіся, адпраўляю маме і бабулі ў Расію. У гэтым месяцы атрымалася недзе 450 рублёў.

Мае крэдыт – у месяц плаціць за плазму 160 рублёў.

Пераважна грошы ідуць на ежу.

– На харчаванне выдаткоўваюць 960 рублёў, але даюць толькі палову. Па 120 у тыдзень дасылаюць на картку. Астатнія 480 рублёў уваходзяць у склад заробку. Заробак залежыць ад аб'ёму працы. У сярэднім атрымоўваю, напрыклад, 1100 і плюс палову, якую не аддалі на ежу.

Атрыманую частку грошай можна траціць на што заўгодна. Пацвярджаць квіткамі, што пайшло менавіта на ежу, не трэба. У краме штодзень набывае хлеб і кілбасу. Часта – свініну. На гэта ідзе прыкладна 600 рублёў у месяц.

Раз на тыдзень гатуе курыныя катлеты. Любіць рабіць плоў, з японскай кухні – лапшу ўдон.

– Свініну звычайна смажу. У выхадныя, калі ёсць час, запякаю з гароднінай у сметанковым соусе. Да піва магу набыць пару кілаграмаў курыных крыльцаў і падсмажыць іх у глазуры, зрабіць востранькімі. На прыгатаванне ежы сыходзіць максімум пара гадзін, раблю ўсё хутка.

На цыгарэты ў месяц траціць 100 рублёў. Раз у два-тры месяцы наведвае цырульню. На стрыжку аддае восем рублёў.

### Адкладаў на тату і марыць пра лецішча

У гэтым месяцы набыў дэзадарант для абутку за восем рублёў, чатыры кілаграмы пральнага парашку за чатыры па акцыі, асвяжальнік для паветра за восем, за 20 – аўтаматычны асвяжальнік. Набыў і патэльню за 40 рублёў.

На сяброўскія «вячоркі» сыходзіць каля 60 рублёў, але яны ладзяцца рэдка, бо выхадных амаль няма. У гэтым месяцы – некалькі разоў. Яшчэ наведаў Маладзечна, на кафэ сышло каля 30 рублёў.

**Дзмітры прызнаўся: адзінае, на што адкладаў грошы – татуіроўка на спіне. Зрабіў яе летась за 260 рублёў у знаёмага. На ёй – чалавек з гадзіннікам і крыламі.**

Вясной марыць набыць лецішча, каб адпачываць ад цяжкай працы.

**Таццяна КАСЬЯН.**

* *Імя зменена па просьбе героя*

## Рэцэпты піцы і супа ад Дзмітрыя

Раней Дзмітры працаваў поварам. Ён дзеліцца з чытачамі «РГ» любімымі рэцэптамі.

### Піца «Дыябла»

Выкарыстоўваю гатовае цеста.

Кавалак цеста раскачваю, намазваю чырвоным соусам. Ён робіцца проста. Памідоры змешваю каля дзесяці хвілін у блэндары з часнаком, сухой сумессю арыгана, базіліка, кропу і пятрушкі, соллю і чорным перцам. На чырвоны соус лью набыты ў краме любы востры соус, ці выкарыстоўваю адзін з іх. Зверху кладу 30 грамаў салямі, 50 грамаў курынай вяндліны, памідор, грыбы, 100 грамаў цёртага сыру «Мацарэла», часам змешваю з сырам «Гауда». Пасля дадаю чырвоную цыбулю, масліны. Стаўлю ў духоўку, запякаю каля 20 хвілін.

### Піца «Кастэла»

А яшчэ можна рабіць піцу не з чырвоным соусам, а з белым. У 200 грамаў смятаны дадаць на смак молаты чорны перац, часнок і адыгейскую соль. Можна трохі базіліку і сухога арэгана. Змяшаць і намазаць на піцу. Цеста таксама набываю ў краме. Наверх кладу 60 грамаў грыбоў, 80 грамаў курыцы, сыр, памідор і масліны.

### Востры тайскі суп «Том-ям»

У 750 мілілітраў курынага ці рыбнага бульёну дадаю 70 грамаў пасты «том-ям», што прадаецца ў крамах, 200 мілілітраў какосавага малака. Вару. Потым дадаю замарынаванае ў солі і чорным перцы нарэзанае кавалкамі курынае філе, 200 грамаў крэветак, кальмараў і пажадана локшыну ўдон. Атрымліваецца тры порцыі класнага вострага супу, які нават дапамагае пры пахмеллі.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 25.10 | 1.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1056 | **2.1196** |
| Еўра | 2.4067 | **2.4065** |
| Злоты, 10 | 5.5884 | **5.5486** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2073 | **3.2308** |
| Грыўня, 100 | 7.4568 | **7.5404** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **24.10** | **31.10** |
| Еўра | 2.3900/2.4120 | **2.3920/2.4120** |
| Долар ЗША | 2.0980/2.1150 | **2.1140/2.1300** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **24.10** | **31.10** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,87** |
| Куранія-бройлер, 1 кг | 3,69 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,59 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,60 | **4,40** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **13,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,70 | **1,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 2,20 | **2,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 2,30 | **1,70** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,75** |
| Кабачок, 1 кг | – | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,75 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,75 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 2,00 | **3,20** |
| Перац, 1 кг | 1,00 | **2,20** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,85 | **0,85** |
| Часнок, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,90 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 1,90 | **1,95** |
| Вінаград, 1 кг | 3,20 | **3,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **4,30** |
| Грушы, 1 кг | 2,00 | **1,80** |
| Дыня, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Кавун, 1 кг | 0,60 | **0,80** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **2,95** |
| Лімоны, 1 кг | 9,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,95 | **3,70** |
| Хурма, 1 кг | 6,50 | **4,70** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,00 | **0,80** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,00 | **12,50** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## У ДТЗ каля Радашкавічаў загінулі чатыры чалавекі, яшчэ пяцёра ў бальніцы

МАЛАДЗЕЧНА

Каля 17 гадзін 27 кастрычніка на трасе Мінск–Маладзечна каля Радашкавічаў сутыкнуліся Mazda і Volkswagen, у выніку якога другі аўтамабіль апынуўся ў кювеце.

У ДТЗ загінулі чатыры чалавекі – два пасажыры і кіроўца Mazda, а таксама кіроўца Volkswagen. Шпіталізаваныя некалькі чалавек – жанчына і сямігадовае дзіця з Mazda і жанчына і паўтарагадовае дзіця з Volkswagen.

Работнікі МНС зрэзалі дах у Mazda, каб дэблакаваць пацярпелых. Прычыны і абставіны ДТЗ высвятляюць.

**Паводле tut.by.**

## На чыгунцы ў Алёхнавічах цягнік наехаў на дваіх. Мужчына загінуў. Жанчына ў бальніцы

МАЛАДЗЕЧНА

Надзвычайнае здарэнне на чыгуначным транспарце адбылося 27 кастрычніка каля 20:40 у раёне чыгуначнай станцыі Алёхнавічы.

Як распавёў намеснік начальніка аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага РАУС **Дзмітры Ярашэвіч**, 27 кастрычніка ў 20:40 на чыгуначнай станцыі Алёхнавічы пад цягнік трапілі 49-гадовы мужчына і 46-гадовая жанчына.

Мужчына загінуў на месцы, жанчыну з траўмамі ног шпіталізавалі ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы. На месца здарэння аператыўна прыбылі медыкі «хуткай дапамогі», следча-аператыўная група.

Па словах відавочцаў здарэння і папярэдніх дадзеных, нецвярозыя пацярпелыя трапілі пад адзін з апошніх вагонаў цягніка. Прычыны і абставіны здарэння высвятляюцца.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## У Маладзечне – новы начальнік РАУС

МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечанскім РАУС 25 кастрычніка прызначылі новага начальніка. Ім стаў 38-гадовы **Вадзім Прыгара**. Да гэтага ён працаваў ва УУС Мінаблвыканкама начальнікам аператыўна-дзяжурнай службы міліцыі.

Да Вадзіма Прыгары Маладзечанскі РАУС узначальваў **Валянцін Асіповіч**. Ён пайшоў на павышэнне. Цяпер працуе намеснікам начальніка Гродзенскага УУС.

**Аддзел інфармацыі.**

## У аварыях на Вілейшчыне за адзін дзень загінулі два равbooрысты

ВІЛЕЙКА

Абодва здарэнні адбыліся 28 кастрычніка.

Каля вёскі Касцяневічы на аўтадарозе Мінск-Калачы-Мядзел каля 14:30 аўтамабіль «Дэу», якім кіраваў 59-гадовы мінчанін, наехаў на 79-гадовую пенсіянерку-раварыстку, што ехала ў спадарожным накірунку. Пенсіянерка выехала на сустрэчную паласу, дзе і адбылося сутыкненне.

Пацярпелую, жыхарку Мядзельшчыны, адвезлі ў аддзяленне рэанімацыі ў бальніцу, дзе каля 11 вечара яна памерла ад траўмаў.

У гэты ж дзень, пасля сямі гадзін вечара, на дарозе Людвінова-Сцешыцы жанчына-кіроўца, жыхарка Вілейшчыны, на «Опелі-Астра» каля вёскі Кумельшчына наехала на 28-гадовага мужчыну, які ляжаў на дарозе разам з роварам. Пешаход загінуў, расказала «Рэгіянальнай газеце» афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Тацццяна Беланог**.

Загінулы – непрацуючы жыхар Вілейскага раёна. Пры аглядзе месца здарэння знайшлі ровар. Ні пешаход, ні яго ровар не былі абазначаныя флікерамі.

Па папярэдніх дадзеных, кіроўцы ў абодвух здарэннях былі цвярозыя. Вілейскія следчыя ўзбудзілі крымінальныя справы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Маладзечне судзяць мядзельскіх следчых і начальніка аддзела судмедэкспертыз

МАЛАДЗЕЧНА
МЯДЗЕЛ

Суд пачаўся 24 кастрычніка і працягнуўся некалькі дзён.

Паводле абвінавачання, старшы следчы два разы стукнуў гумовай палкай 21-гадовую заяўніцу **Вольгу Даўжук**, якая заявіла ў міліцыю аб крадзяжы тэлефона.

Супрацоўнікі мядзельскага РАСК, па версіі абвінавачання, дапамаглі калегу замяць справу аб прымяненні гвалту, эксперт падрабіў вынікі экспертызы.

Сама ж пацярпелая не хавае: пад раніцу пасля дыскатэкі з-за выпітага спіртнога яна памятае не ўсё.

**Паводле tut.by.**

# Пад Вілейкай Мінабароны Расіі размясціла комплексы «Самарканд»

ВІЛЕЙКА

**Міністэрства абароны Расіі размясціла найноўшыя комплексы радыёэлектроннай барацьбы «Самарканд» на стратэгічных напрамках, у тым ліку ў Беларусі, паведамляюць «Ведомости».**




Каля ўвахода на тэрыторыю вайсковай часці ў Шылавічах.

Ведамства абвясціла тэндар на закупку паслуг па дапрацоўцы, мантажы і падключэнні складовых частак комплексаў да сістэмы перадачы дадзеных Мінабароны.

Згодна з дакументацыяй тэндару, Мінабароны разгарнула 16 комплексаў «Самарканд» у 13 вайсковых часцях у Архангельскай, Калінінградскай, Маскоўскай, Мурманскай, Ніжагародскай абласцях, Краснадарскім і Прыморскім краях, Яўрэйскай аўтаномнай вобласці і ў Беларусі.

Комплексы дыслакаваныя на аб'ектах Ваенна-марскога флоту. Працы па мантажы павінны завяршыцца да 10 лістапада наступнага года, гаворыцца ў паведамленні аб правядзенні закрытага аўкцыёну. Пачатковая цана кантракта складае 61 мільён рублёў, крыніца фінансавання – федэральны бюджэт. Аўкцыён прызначаны на 16 лістапада.

Паводле інфармацыі на сайце Мінабароны, у мінулым годзе на ўзбраенне службы радыёэлектроннай барацьбы Паўночнага флоту паступілі найноўшыя комплексы «Святло» і «Самарканд». Расійскія вайскоўцы ні разу афіцыйна не раскрывалі прызначэнне гэтых комплексаў і іх характарыстыкі. Як паведамляе РІА «Новости», іх асноўная задача – пастаноўка перашкодаў і зрыў камунікацый праціўніка.

У Беларусі дыслакаваныя наступныя ваенныя аб'екты Расіі: 43-і вузел сувязі ВМФ Расіі «Вілейка» (радыёстанцыя «Антэй», RJH69) – вузел сувязі і 474-ы асобны радыётэхнічны вузел «Ганцавічы» / «Клецк-2», на якім размешчаная стацыянарная радыёлакацыйная станцыя 70М6 «Волга».

Вузел сувязі ВМФ Расіі ля Вілейкі забяспечвае сувязь на звышдоўгіх хвалях Галоўнага штаба ВМФ з атамнымі падводнымі лодкамі, якія нясуць баявое дзяжурства ў раёнах Атлантычнага, Індыйскага і часткова Ціхага акіянаў. Перадатчык радыёстанцыі магутнасцю 1 000 кВт забяспечвае далёкасць сувязі на адлегласці больш за 10 тысяч кіламетраў. Аб'ект знаходзіцца паблізу вёскі Шылавічы ў дзесяці кіламетрах на захад ад Вілейкі.

**Паводле THE-VILLAGE.ME.**

## Гаспадары памыліся, а праз паўгадзіны загарэлася лазня

ВІЛЕЙКА

Пра пажар у вёсцы Казлы Ільянскага сельсавета вілейскім выратавальнікам паведамілі ўвечары.

У вёску выехалі чатыры пажарныя машыны і «хуткая дапамога».

Калі першыя выратавальнікі былі на месцы, убачылі, што адкрытым полымем гарыць лазня ў двары.

– Гаспадары прыехалі з Мінска на лецішча, папарацавалі. Удзень запалілі лазню, у шэсць гадзін пайшлі мыцца, – расказаў «Рэгіянальнай газеце» галоўны спецыяліст інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага ГРАНС. – Праз паўгадзіны пасля таго, як людзі выйшлі, лазня загарэлася.

Прычыну пажару высвятляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчына, што знік на Вілейшчыне, знайшоўся ў Бабруйску

ВІЛЕЙКА

Вечарам 24 кастрычніка Вілейшчыны **Сяргея Н.** знайшлі ў Бабруйску, паведаміў карэспандэнту старшы оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС маёр міліцыі **Віталь Паслед**.

Сяргей Н. ішоў па адной з бабруйскіх вуліц. Да яго падышоў мясцовы міліцыянер, каб праверыць дакументы. Аказалася, мужчына ў вышуку. Пра «знаходку» бабруйскі міліцыянер паведаміў вілейскім калегам.

Па словах Сяргея Н., дома яго не было, бо вырашыў наведаць сяброў і знаёмых у розных гарадах Беларусі. Маці пра сваё месца знаходжання не паведамляў, бо напярэдадні пасварыўся з ёй.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Людзі са слабым зрокам вышываюць і робяць лялек

## У Маладзечне праводзяць выставу, прысвечаную месячніку «Чалавек з белым кійком»

**– Матэрыял кветак мае цікавы эфект. Дзьмухаўцы трэба трымаць над запальнічкай, каб пялёсткі раскруціліся. – Алена выцягвае з букета кветку, падносіць запальнічку. Шчоўк. Секунда – і дзьмухавец палае аранжавым агнём. – Падсмалілі адзін, – усміхаецца майстрыха, патушыўшы кветку.**



Ала Юркевіч паказвае сваю працу.

МАЛАДЗЕЧНА

Першае, што мяне сустракае на прадпрыемстве «ЭНВА», – абраз у ніжнім кутку акна ля самых дзвярэй. Праходжу праз вахту, падымаюся на трэці паверх. На парэнчах – па тры вінты, першая і апошняя прыступкі на лесвіцах пафарбаваныя жоўтым. Пахне свежасцю і жаночымі духамі. На сценах – выявы маладзечанскага касцёла, фантана «Папараць-кветка». На дзвярах таблічкі «Бібліятэка», «Актавая зала», «Студыя эстраднай песні». Мне трэба ў першую.

– Ой, вы змерзлі, будзеце чай ці каву? – ветліва пытаецца бібліятэкар. – З цукрам? Шакаладам?

Перада мной узнікае кубачак з кавай.

### Мінулае і сучаснае

**Ад 15 кастрычніка да 15 лістапада адзначаюць месячнік «Чалавек з белым кійком». Ён нагадвае пра існаванне побач людзей з інваліднасцю, пра дапамогу і салідарнасць.**

Да месячніка ў гарадской спецыялізаванай бібліятэцы №18, якая знаходзіцца ў будынку «ЭНВА», ладзяць выставу дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва «Мінулае і сучаснае». На дрэвы з бісеру і пап'е-машэ, лялькі, распісанае шкло, вышыўку могуць паглядзець усе ахвотныя.

### Людзі адаптуюцца хутка

Пакуль фатаграфую экспазіцыю і п'ю каву, прыходзяць мае гераіні. **Ала Юркевіч** і **Алена Звяркова** – удзельніцы выставы. Сёння жанчыны пакажуць майстар-класы.

– Спадзяюся, фатаграфаваць не будзеце? Бо нават пазногці не паспела пафарбаваць, – пытаецца Алена і садзіцца за стол. На ім хутка з'яўляецца пакецік з нечым яркім унутры. – Ці можна папрасіць нешта, на што не шкада клей ліць? Будзем рабіць ружу.

Алена выцягвае з пакеціка на стол доўгую ружовую стужку.

Яна працуе размеркавальнікам работ, здае прадукцыю на склад, размяркоўвае працу людзям. Ала – інжынер-тэхнолаг.

Людзі хутка адаптуюцца. Напрыклад, у краме калі не бачу, ведаю, гэты цукар трэба набыць. Нават калі ён на дзве капейкі падаражэў.

### З-за дрэннага зроку даводзіцца хітраваць

Алена ўжо падрыхтавалася і пачынае майстар-клас.

– Спатрэбіцца атласная стужка, запальнічка, нажніцы і клеявы пісталет. І вялікае жаданне. Спачатку робім аснову, – рукі Алены складваюць стужку і акуратна яе скручваюць. – Цяпер трэба замацаваць. Потым фарміруем пялёсткі. Замацоўваем кожны пісталецікам. Пачала вазу распісваць акрылавым контурам. Недзе ёсць арыенціры, выемкі ці значкі на слоічках. Знайшла хітрасць. Выразаю трохкутнікі з паперы, змочваю вадой, прыкладваю да слоіка і абводжу. Калі распісвала, сядзела з лупай, якая часта адсвечвала. Вось так прыкладна я бачу (падносіць руку да твару)… Носам, але што рабіць.

Бібліятэкар ставіць на стол распісаны залацістым і белым акрылавым контурам келіх. Кропачкі, кропелькі, кветачкі…

Алена скручвае апошнія пялёсткі новай ружы.

– Цяпер у нас атрымліваецца тая ружа, якую хацелі, бачыце? Адзінае, што тонкія ніткі ад клею не бачу, звычайна бяру павелічальнае шкло і гляджу праз яго. Ці фатаграфую і павялічваю.

### «Чалавек заўсёды шукае добрае…»

Захапленне Алены пачалося са скрыначкі для іголак.

– Калі вакол дрэнна, чалавек шукае нешта добрае. Глядзела ў інтэрнэце ідэі, натхнялася. Думала, дзе магла б зрабіць лепш. Увогуле, актыўна карыстаюся інтэрнэтам. Ёсць спецыяльныя праграмы, напрыклад, JAWS, якія дапамагаюць людзям са слабым зрокам.

JAWS – праграма для чытання з экрана. Інфармацыя пры чытанні адлюстроўваецца на экране праз агучванне тэксту і з дапамогай шрыфту Брайля, які дазваляе карыстацца клавіятурай.

### Вышывала карціну год

Пачынаецца наступны майстар-клас. Ала 15 гадоў вышывае крыжыкам. Звычайна карыстаецца схемай, падабаецца лічыць клетачкі. Але сёння дэманструе работу, якую вышывае па набітай на канву фарбе. Любіць вышываць дробным крыжыкам, тады праца быццам намаляваная.

– На першай вышытай карціне – птушаняты. А вось на гэтых касачы (паказвае на вышыўку) сышло каля года. Бяруся за іголку толькі пару гадзін на дзень, вечарам, перад тэлевізарам. Даўжэй не магу, стамляюцца вочы. На экран не гляджу, толькі слухаю.

Іголка з белай ніткай павольна і акуратна ходзіць па канве.

«Верхні слой шыўкоў раблю ў адзін бок, каб было прыгожа. Глядзіце, вышываю ў чатыры ніткі, каб канву не было відаць». Кранаю шурпатыя крыжыкі.

Ала вяжа, распісвае фарбамі карціны па нумарах, марыць асвоіць вышыўку гладдзю і бісерам.

### Цяпер актуальнае ўніверсальнае асяроддзе

– Работа са стварэннем безбар'ернага асяроддзя пачалася ў 2008 годзе. Адміністрацыя горада ідзе насустрач. Раней гаварылі пра безбар'ернае асяроддзе, сёння кажам аб універсальным, даступным для кожнага, – кажа **Таццяна Саўчанка**, старшыня пярвічнай арганізацыі ўнітарнага прадпрыемства «ЭНВА».

### У 81 год гуляе ў шахматы

У гэты момант у бібліятэку заходзіць **Валеры Мілічэнка**. У яго руцэ – кіёк.

Чытачу 81 год. Ён інвалід першай групы па зроку. Па словах бібліятэкара, Валеры піша вершы, гуляе ў шахматы і з'яўляецца ветэранам БелТІЗа.

– Люблю гістарычныя раманы, прыгоды, пазнавальную літаратуру. Цяпер вось асвяжаю памяць, чытаю «Дапаможнік шахматнай гульні». – На стале ляжаць дзве вялікія кнігі, напісаныя шрыфтам Брайля. – Раней ездзіў на спаборніцтвы па шахматах у Ленінград, у Жытомір.

Шрыфт Брайля – рэльефна-кропкавы тактыльны шрыфт, прызначаны для пісьма і чытання людзьмі з дрэнным зрокам і невідушчымі.

Валеры кладзе на стол дзве аранжавыя і тры ружовыя пластыкавыя каробкі. У каробках – кнігі. «Катарга» Пікуля – на 14 касетах, «Гонар маю» – на 22.

**– Праблема, што больш не выпускаюць касетныя магнітафоны, а сталым людзям цяжка асвойваць новую тэхніку. Так і напішыце, калі ў чытачоў ёсць непатрэбныя касетнікі. Грошай не заплацім, канешне, але ж людзі павінны дапамагаць адзін аднаму.**

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. Rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Мерседэс-Бэнц, 1993 г.в. Падрабязнасці па тэл. (8-029) 5642397.

• ФВ-Джэта. Т. (8-044) 7771933, (8-029) 7781447.*

• ФВ-Пасат Б6, 2010 г.в, 1,4 tsi, 6МКП, невялікі прабег, ёсць усё, акрамя скуры. Нядорага. Т. (8-033) 6714366.*

• Форд-Транзіт, 1997 г.в.,2,5 ТД, 8000 руб, торг альбо абмен на легкавы аўтамабіль. Т. МТС (8-029) 5648002.*

• Шкода-Румстар, 2008 г.в, парктронік, 1,2 бензін, шэры металік, хэтчбэк, 10 120 бел. рублёў. Мядзел. Т. (8-029) 7780936.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на ходу для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці. Т. (8-029) 2558717.

• 1-пакаёвая кватэра ў Шылавічах. Т. (8-029) 1358806.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы ў раёне Шанхай. Т. (8-033) 3930608.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, агульная плошча 50 кв. м. Т. (8-029) 2716509.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2716509.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5112463.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-044) 7307135.*

• 3-павярховы жылы дом у цэнтры Вілейкі. Укамплектаваны мэбляй, трэнажорны комплекс «Кетлер». 3 гаражы. Жылая плошча 170 кв. м. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. МТС (8-029) 5058543.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 3 паверх. Побач д/сад, школа, басейн, лесапарк. Т. (8-01771) 55427, (8-029) 3772077.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Незалежнасці, у ідэальным стане. Т. (8-029) 7039162.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Пагранічнікаў,19, 74 кв. м, тэлефон, інтэрнэт, падвал, цагляны дом, 2/3 пав. Т. (8-029) 6444731.

• Дом у Бярозаўцы Лідскага раёна, 18 сотак, недалёка Нёман. Т. +375 1545 62855, +370 5562855, +370 60468286.

• Дом у Маладзечне, вул. Велікасельская, 6х12 м, 0,10 га з гаспадарчымі пабудовамі. Газ, вада, тэлефон, склеп. Газавае ацяпленне, цвёрдае паліва. Т. МТС (8-033) 6393440.*

• Дом у Нарачанскім парку на беразе ракі ў п.Свір. Побач возера Свір, Нарач, «Блакітныя азёры». Т. Вэлком (8-044) 5595883, МТС (8-029) 5420211.*

• Катэдж у Вілейцы 190 кв. м з садам і пабудовамі альбо размяняю. Т. (8-029) 5060628.

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец (6 мікраараён). Т. (8-029) 1213771.

• Дом для пражывання ў Вілейцы. Газ, вада, мэбля. Нядорага. Т. (8-033) 8764985.




## ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерседэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-пагрузчык: планіроўка, зняцце грунту, прыборка смецця, снегу і г. д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. (8-029) 6926052.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.Н. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне пнёў – **СКІДКА**. ВЫВАЗ галля і драўніны. ІП Таўгень Е. П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Гарбыль, апілкі з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар самаробны, дызель, ВОМ, гідраўліка, прычэп і навяснае. Т. (8-029) 8822640, (8-029) 9512274.

• Трактар Т-25 з дакументамі, прычэпам, навясным абсталяваннем. Т. (8-029) 1643879.*

**Бытавая тэхніка**

• Камбайн кухонны, швейная машынка, шафкі навясныя, усё б/у. Т. (8-0176) 543172.*

• Халадзільнік Атлант б/у. Т. Вэлком (8-029) 6870898.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Козы дойныя. Смаргонскі раён. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5092609, (8-029) 7059552.*

**Іншае**

• Сена і кармавыя буракі. Т. (8-029) 8822640, (8-029) 9512274.

**КУПЛЮ**

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК,** ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• **КАБАНА, СВІННЮ. Т. (8-029) 5688765, (8-044) 5423601.***

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Ціскі. Т. (8-029) 2375721.*

## ПРАЦА

**ПАТРАБУЕЦЦА**

• Жанчына ветлівая на цэлы працоўны дзень для прыборкі ў доме і ўтрыманні тэрыторыі. Т. Вэлком (8-029) 6092504.

# Хлопцу з Германіі падарылі шапку, шалік і «Рэгіянальную газету»

## У бібліятэцы завяршылі тыдні Германіі і ўзнагародзілі пераможцаў фотамарафону

**Кінапрагляды, круглы стол і кулінарны майстар-клас зладзілі ў Маладзечне ў межах сёлетніх тыдняў Германіі ў Беларусі. 28 кастрычніка ў зале замежных моў цэнтральнай раённай бібліятэкі падвялі вынікі тыдняў і ўзнагародзілі тых, хто перамог у фотамарафоне.**

МАЛАДЗЕЧНА

### Здымалі камедыю, міф і фальклор

Падчас марафону, які бібліятэка ладзіць другі год запар, маладыя людзі хадзілі па горадзе і здымалі сюжэты на атрыманыя тэмы. На падвядзенні вынікаў у фармаце фотасушкі ў бібліятэцы ўдзельнікі маглі пабачыць здымкі на тэмы «Казка», «Ода», «Дэтэктыў», «Фальклор», «Міф», «Меладрама», «Камедыя», «Трагедыя».

– Сёння мы запрасілі самых актыўных удзельнікаў усіх мерапрыемстваў тыдняў, – расказала бібліятэкар залы замежнай літаратуры **Таццяна Летунова**. – Большасць з гэтых маладых людзей па некалькі разоў хадзілі глядзець фільмы на нямецкай мове, бралі ўдзел у кулінарным майстар-класе баварскай кухні і круглым стале пра жыццё моладзі ў Беларусі і ў Германіі.

**Па словах Таццяны Летуновай, дзякуючы пасольству ў зале замежных моў з'явілася шмат нямецкіх кніг, якія ўжо бяруць чытаць наведнікі.**

### Старшыня журы быў самым добрым

Фотаздымкі ўдзельнікаў марафону ацэньвала журы ў складзе мастакоў, фатографаў, праграмістаў. Узначаліў журы маладзечанец **Яўген Стэльмах**. Па словах бібліятэкараў, менавіта ён быў самым добрым з усіх сяброў журы. Відаць, таму, што ведае, як нялёгка часам даводзіцца працаваць фатографам, лічаць у бібліятэцы.

Першапачаткова да ўдзелу зарэгістраваліся 25 чалавек. Аднак многія сышлі з дыстанцыі, не вытрымаўшы хуткага рытму. Пабегаць па вуліцах горада прыйшлося шмат. Таму арганізатары адразу звярталі ўвагу на тое, каб удзельнікі былі ў зручным адзенні і абутку. Дазвалялася рабіць пастановачныя фотаздымкі. Адзіная ўмова – не карыстацца фоташопам.

### Фраў Лютэр: Як добра, што я не член журы

На мерапрыемстве прысутнічала першы намеснік пасла Германіі ў Беларусі **Ані Лютэр**.

**– Я вельмі рада, што не ўваходжу ў журы, – адзначыла фраў Лютэр. – Тут столькі цудоўных здымкаў, што не ведаю, як можна было выбраць лепшыя.**

На думку фраў Лютэр, усе мерапрыемствы сёлетняга тыдня атрымаліся. Нават майстар-клас баварскай кухні, які першапачаткова і ў бібліятэкараў, і ў супрацоўнікаў пасольства выклікаў стан лёгкага шоку.

Ані Лютэр уручыла падарункі пераможцам фотамарафону. Лепшымі і самымі шматлікімі аказаліся фотаздымкі маладзечанскай школьніцы **Паліны Самсановіч**. Акрамя прыза, Паліна атрымала ў падарунак фотасесію або майстар-клас ад фатографа Яўгена Стэльмаха. Што выбраць – дзяўчына вырашыць сама.

### Юлія – доктар, які любіць нямецкую мову і фотаздымкі

Трэцяе месца занялі фотаздымкі маладзечанскага доктара **Юліі Бембель**. Да таго ж здымак Юліі перамог у глядацкім галасаванні. Большасць наведнікаў і бібліятэкараў прагаласавалі за выяву дзяўчыны ў маладзечанскім восеньскім парку.

Другім стаў валанцёр з Германіі **Лінус Шыдэрмаер**. Хлопец выкладае нямецкую мову ў дзясятай гімназіі Маладзечна.

За перамогу немец атрымаў цёплыя шапку і шалік, каб сагрэцца халоднай беларускай зімой, а таксама «Рэгіянальную газету» з артыкулам пра сябе.

– Дзякуючы «Рэгіянальнай газеце» Лінус стаў сапраўднай зоркай у Маладзечне, – заўважыла Таццяна Летунова.

### Зала замежных моў па-ранейшаму чакае прыхільнікаў Германіі

За актыўнасць у фотамарафоне журы таксама адзначыла маладзечанак **Дар'ю Філіпаву**, **Кацярыну Астапенку**, **Аліну Туруншу** і **Мілану Скінтэр**.

А бліжэй да заканчэння імпрэзы маладзечанская бібліятэка зладзіла скайп-канферэнцыю з бібліятэкай Баранавічаў, дзе таксама падводзілі вынікі фотамарафону і тыдняў Германіі. Жыхары Баранавічаў расказалі, што ў фотамарафоне ўдзельнічалі цэлымі сем'ямі.

Па словах Таццяны Летуновай, тыдні Германіі скончыліся, аднак не скончылася нямецкая мова ў бібліятэцы. Ужо на першага лістапада запланавалі пагуляць у настольныя нямецкія гульні. А крыху пазней правядуць круглы стол, дзе Лінус Шыдэрмаер раскажа маладзечанскай моладзі пра паўночную Германію.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Падарунак не дасць нямецкаму юнаку змерзнуць падчас халоднай беларускай зімы. На фота Лінус Шыдэрмаер і Ані Лютэр.





Так аўтары фотаздымкаў убачылі камедыю.

## Як таксістам трымаць справаздачу перад падатковай

Пастанова Савета Міністраў №636 ад 31 жніўня ўнесла змены ў «Правілы аўтамабільных перавозак пасажыраў».

Пункт 162 Правілаў тычыцца дыспетчараў таксі або аўтамабільных перавозчыкаў, якія самастойна прымаюць і перадаюць заказы на перавозкі пры дапамозе сродкаў электрасувязі і інтэрнэту, у тым ліку з дапамогай электроннай інфармацыйнай сістэмы. Яны абавязаны падаваць да 20-га числа месяца, наступнага за справаздачным кварталам, інфармацыю аб выкананых аўтамабільных перавозках пасажыраў у выглядзе электроннага дакумента па форме, згодна з дадаткам 6 да Правілаў.

Інфармацыя падаецца ў інспекцыю Міністэрства па падатках і зборах па Мінскай вобласці, код інспекцыі 601.

**Электронны дакумент трэба накіраваць у АРМ «Плацельшчык» паведамленнем у вольнай форме.**

Трэба дадаць укладанне з дадаткам файлаў у фармаце XLSX, падпісаных электронным лічбавым подпісам. Ад 20 красавіка 2019 года і далей – перадаваць дадзеныя ў выглядзе электроннага дакумента ў фармаце XML з дапамогай АРМ «Плацельшчык».

## Як выстаўляць пакупнікам ці накіроўваць на Партал рахункі-фактуры па ПДВ

Электронны рахунак-фактура (далей – ЭРФ) – абавязковы электронны дакумент для ўсіх плацельшчыкаў падатку на дададзеную вартасць (далей – ПДВ), у якіх узнікае аб'ект падаткаабкладання ці абавязак выстаўлення (накіравання) ЭРФ у адпаведнасці з палажэннямі артыкула 106-1 Падатковага кодэкса. Ён служыць падставай для разлікаў па падатку на дададзеную вартасць паміж прадаўцом і пакупніком. Таксама для вылічэння сум падатку на дададзеную вартасць.

Плацельшчык абавязаны ў дачыненні да кожнага абароту па рэалізацыі тавараў (работ, паслуг), маёмасных правоў (за выключэннем выпадкаў, указаных у п. 7 арт. 106-1 ПК і п.п. 2.3 п. 2 Указа №29 ад 25.01.2018) ствараць і выстаўляць ЭРФ пакупніку тавараў (работ, паслуг), маёмасных правоў, альбо накіроўваць ЭРФ на Партал, без выстаўлення іх пакупніку.

ЭРФ выстаўляецца пакупнікам не раней, чым у дзень адгрузкі тавару (выканання работ, аказання паслуг), перадачы маёмасных правоў, што вызначаецца ў адпаведнасці з палажэннямі артыкула 100 ПК. Не пазней за 10-е чысло месяца, наступнага за месяцам дня адгрузкі тавараў (выканання работ, аказання паслуг), перадачы маёмасных правоў, калі іншае не ўстаноўлена п. 4 арт. 106-1 ПК.

У выпадках, якія не патрабуюць у адпаведнасці з артыкулам 106-1 ПК выстаўлення ЭРФ пакупніку (атрымальніку), а таксама пры ўвозе тавараў на тэрыторыю Беларусі і набыцці тавараў (работ, паслуг), маёмасных правоў на тэрыторыі Беларусі ў замежных арганізацый, якія не дзейнічаюць у Беларусі праз пастаяннае прадстаўніцтва і не знаходзяцца на ўліку ў падатковых органах Беларусі, ствараць і накіроўваць ЭРФ не пазней за 20-е чысло месяца, наступнага за месяцам, на які прыпадае дзень аперацыі, названы ў ЭРФ.

Да арганізацый і індывідуальных прадпрымальнікаў, якія не выстаўляюць ЭРФ пакупнікам, альбо не накіроўваюць іх на Партал, прымяняюць меры адміністрацыйнага спагнання. Адміністрацыйная адказнасць за невыстаўленне альбо ненакіраванне на Партал ЭРФ прадугледжаная часткай 1 артыкула 13.8 Кодэкса «Аб адміністрацыйных правапарушэннях».

**Магчымае пакаранне – папярэджанне або штраф у памеры ад двух да дваццаці базавых велічынь (ад 49 да 490 рублёў).**

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

# Юныя даследчыкі перамаглі на абласной навуковай канферэнцыі

**МАЛАДЗЕЧНА ВАЛОЖЫН МЯДЗЕЛ ВІЛЕЙКА**

**27 кастрычніка завяршылі 21 конкурс навукова-даследчых работ навукоўцаў Міншчыны.**




**Дыпломы трымаюць Яна Каласоўская з Радашкавічаў і Алеся Кандрукевіч з 14 школы.**

На конкурс падалі 701 працу. У выніку сярод пераможцаў аказалася 18 школьнікаў з нашага рэгіёна.

У секцыі «Гісторыя. Культурная спадчына і сучаснасць» дыплом трэцяй ступені атрымала **Ангеліна Находка** з Нарацкай школы №2. **Аляксей Мікулевіч** з трэцяй гімназіі Маладзечна стаў другім у секцыі «Працоўнае навучанне». Вучань з гэтай жа гімназіі **Уладзіслаў Хіль** заняў трэцяе месца з працай па французскай мове.

Адзінаццацікласніцы з Краснага **Настасся Раманоўская** і **Настасся Ярашэвіч** прадставілі працу па грамадазнаўстве і занялі трэцяе месца.

**Анастасія Баталава** з Сакаўшчыны Валожынскага раёна ўзяла «бронзу» ў секцыі «Беларуская мова». А навучэнка вілейскай гімназіі №2 **Яўгенія Бурак** стала трэцяй сярод даследчыкаў-літаратуразнаўцаў.

Найлепшай у секцыі «Руская мова» журы прызнала вучаніцу 10 класа гімназіі №1 Валожына **Наталлю Маслоўскую**. Трэцяй у секцыі «Англійская мова, філалогія, краіназнаўства» стала **Яна Каласоўская** з Радашкавічаў. Яшчэ адна прадстаўніца Маладзечаншчыны, **Алеся Кандрукевіч** з 14 школы, стала другой сярод біёлагаў.

У секцыі «Геаграфія» ў маладзечанцаў два дыпломы – першае месца ў **Паліны Фалей** з Палачанаў, трэцяе – **Вікторыі Паўлоўскай** з Турэц-Баяраў.

**Кацярына Пятрычэнка, Паліна Паляшчук, Ясенія Стома** з другой валожынскай гімназіі прадстаўлялі працу па хіміі і занялі трэцяе месца. А пяцікласнік **Іван Бацян** з другой валожынскай школы стаў другім у секцыі «Фізіка-матэматычныя дысцыпліны». **Віталь Мацкевіч** з гімназіі-інтэрната Мядзела стаў найлепшым у секцыі «Натуральнанавуковыя дысцыпліны», а **Аляксей Мандрык** з маладзечанскай гімназіі №10 – другім у «Філалогіі».

**Аддзел інфармацыі.**

## Ад 1 лістапада забараняюць лоўлю сіга чудскога і сома звычайнага

Здабыча сіга чудскога і сома звычайнага ў перыяд забароны на іх лоўлю, у залежнасці ад памеру шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю, можа паслужыць падставай для прыцягнення да адміністрацыйнай або крымінальнай адказнасці.

Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае, што ад 1 лістапада забараняюць лоўлю сіга чудскога і сома звычайнага, паведаміў **Раман Лесін**, выканальнік абавязкаў начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

Забарона на лоўлю сіга чудскога працягнецца да 15 снежня, а сома звычайнага – да 31 сакавіка.

Названыя меры абумоўлены тым, што сіг ідзе на нераст, а сом залягае ў зімавальныя ямы і становіцца лёгкай здабычай для браканьераў, якія выкарыстоўваюць для яго здабычы калючыя прылады.

Здабыча гэтых відаў рыбы ў перыяд забароны на іх лоўлю, у залежнасці ад памеру шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю, можа паслужыць падставай для прыцягнення да адміністрацыйнай або крымінальнай адказнасці.

Акрамя таго, парушальніку прыйдзецца пакрыць нанесеную навакольнаму асяроддзю шкоду. За кожнага незаконна здабытага сіга чудскога – па дзевяць базавых велічынь (220,5 рубля), сома звычайнага – па 12 базавых велічыняў (294 рублі).

Мядзельскай міжраённай інспекцыяй сумесна з іншымі прыродаахоўнымі і праваахоўнымі органамі пастаянна праводзяцца мерапрыемствы па выяўленні фактаў браканьерства. Калі вам стала вядома пра факты парушэння прыроднага заканадаўства, то тэлефануйце: 8-01797 50-7-40 або на «тэлефон даверу» Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету – 8-017 390-00-00, або на тэлефон 102.

## Ад трэцяга лістапада можна паляваць на куніцу, тхара, норку, вавёрку, андатру

Ад першай суботы лістапада адкрываецца асенне-зімовы сезон палявання на пушных паляўнічых жывёл – куніцу лясную і каменную, тхара лясного, норку амерыканскую, андатру, вавёрку.

Паляваць дазволяць у светлы час сутак ружэйным спосабам з падыходу, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі ўсіх парод, акрамя ганчакоў і хартоў.

Можна і без стрэльбы: з дапамогай розных пастак (за выключэннем завесаў).

Змяняюцца ўмовы палявання на зайца-русака і зайца-беляка ружэйным спосабам: цяпер на іх можна паляваць як без сабак, так і з паляўнічымі сабакамі ўсіх парод.

Пашыраны і спосабы здабычы: з засады, з падыходу і загонам. Пры ружэйным паляванні на зайца дазваляецца выкарыстоўваць гладкаствольную паляўнічую зброю з патронамі са шротам, а на куніцу лясную і каменную, тхара лясного, норку амерыканскую, андатру і вавёрку – таксама наразную паляўнічую зброю калібру 5,6 міліметра.

Калі вам стала вядома пра факты парушэння прыроднага заканадаўства, то тэлефануйце на нумар **8-01797 50-7-40** або на «тэлефон даверу» Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету – **8-017 390-00-00** ці на тэлефон **102**. Усю атрыманую інфармацыю абавязкова правяраць.

**Раман ЛЕСІН,**
**Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**



# За адарваны гузік муж стукнуў мяне чаравікам па твары

Артысты на сцэне. Святлана Сарока (першая справа) чытае гісторыю Інэс Макормак з Паўночнай Ірландыі.

**– Мяне 26 год б'е муж...**
**– Мяне згвалтавалі чацвёра мужчын, а ў паліцыі не прынялі заяву...**

МАЛАДЗЕЧНА

30 кастрычніка са сцэны Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне гучалі нявыдуманыя гісторыі сямі жанчын, якія перажылі хатні гвалт. Тут паказалі спектакль «Сем».

### Пра гвалт у Савецкім Саюзе і мусульманскіх краінах

Спектакль – дакументальны тэатральны твор, заснаваны на інтэрв'ю з жанчынамі. Гераіні – прадстаўніцы розных краін, з хатнім гвалтам яны сутыкнуліся па розных прычынах.

**Мухтар Май** з Пакістана згвалтавалі чацвёра мужчын. Так яны адпомсцілі за абразу гонару іх сям'і. У паліцыі ў дзяўчыны не прынялі заяву. Змагацца за сябе Мухтар не магла, бо, як большасць жанчын у Пакістане, не мела нават пачатковай адукацыі. Трагічная гісторыя Мухтар, дзякуючы журналістам, стала вядомай у свеце.

**Фарыдзе Азізі** і яе дзецям пагражалі ў родным Афганістане, бо Фарыда змагалася супраць прыніжэння жанчын у краіне. Яна вымушаная была прасіць палітычнага прытулку. Цяпер жыве ў ЗША.

У **Марыны Пісклаковай-Паркер** з СССР было шчаслівае дзяцінства, любыя бацькі, сваякі, бабуля, дзядуля. Дзяўчынка думала, што так і павінна быць, так ва ўсіх. Але стаўшы дарослай, зразумела, што ў сем'ях далёка не заўсёды так. Многія жанчыны цярпяць гвалт і не кажуць пра тое. Бо ў Савецкім Саюзе такія размовы былі непрыняты.

Кожная з сямі жанчын прысвяціла сябе барацьбе з гвалтам. У 1993 годзе, нягледзячы на шматлікія цяжкасці, Марына Пісклакова-Паркер адкрыла першы ў Расіі тэлефон даверу для пацярпелых ад хатняга гвалту, які пасля стаў цэнтрам «Анна». За час існавання цэнтра ў яго звярнуліся сто тысяч расіянак.

**Інэс Макормак** з Паўночнай Ірландыі ад 1960-х гадоў з'яўляецца актывісткай, што змагаецца за правы жанчын на працу і сацыяльную справядлівасць. А пачалося ўсё з таго, што яна, пратэстантка, супраць волі сваякоў зрабіла неверагоднае: выйшла замуж за каталіка.

### Ігралі дырэктар Палаца культуры і тэлевядучая

Гісторыю кожнай з сямі жанчын чытальнікі распавядалі са сцэны. Прычым большасць з іх не акцёры па прафесіі. І гэта яшчэ адна задума спектакля: далучыць да пастаноўкі абсалютна розных людзей.




На праграмках спектакля – партрэт Мухтар Май з Пакістана.

Шчымлівыя гісторыі жанчын прачыталі намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама **Алена Сакалоўская**, фіндырэктар аднаго з таварыстваў **Віктар Бірыч**, старшыня Маладзечанскай раённай арганізацыі «Беларускі фонд міру» **Святлана Чыжыкава**, дырэктар цэнтра «Стымул да поспеху» **Андрэй Максіменка**, дырэктар Маладзечанскага Палаца культуры **Святлана Сарока**.

Спецыяльна для ўдзелу ў пастаноўцы ў родны горад прыехала ўраджэнка Маладзечна, тэлевядучая **Святлана Бароўская**.

Першапачаткова не планавалі задзейнічаць прафесійных акцёраў. Аднак дырэктар Мінскага абласнога драмтэатра **Юры Крывенькі** параіў рэжысёру **Івану Пінігіну** ўсё ж далучыць да пастаноўкі вядучых майстроў сцэны з Маладзечна – **Алега Чэчанева** і **Ірыну Камышаву**.

У фае тэатра працавалі тэматычныя выставы, якія привезлі арганізатары.

### Дырэктар тэатра: ніхто з нас не застрахаваны ад гвалту

– Прыемна, што для спектакля абралі наш горад. «Сем» паказвалі ў Мінску, у Брэсце, у іншых абласных гарадах. Маладзечна стаў першым раённым цэнтрам, дзе паставілі спектакль, – распавёў «Рэгіянальнай газеце» Юры Крывенькі. – Лічу, што сённяшняя пастаноўка датычыцца кожнага з нас. Ніхто не застрахаваны ад сітуацыі гвалту, ад сустрэчы з людзьмі з нечалавечымі паводзінамі. Спектакль паказвае, як важна ў пэўны час стрымаць сябе, не паддацца жывёльным інстынктам.

**По словах дырэктара, у праекце задзейнічаныя розныя людзі: медыкі, праваахоўнікі, прадстаўнікі сацыяльных службаў.**

Падчас спектакля была поўная зала гледачоў, і пераважную большасць складалі жанчыны. Аднак, як мне сказалі заўсёдныя наведнікі, такая карціна амаль на ўсіх спектаклях у тэатры. І ад тэмы гэта ніяк не залежыць.

Аксана ЯРАШОНАК.

Даведка «РГ»
Паказ спектакля «Сем» у Беларусі ладзіць Фонд ААН у галіне народанасельніцтва (ЮНФПА) у рамках інфармацыйнай кампаніі «Не маўчы! Спыні гвалт у сям'і!». Аўтар праекта і прадзюсар п'есы Хеда Краус Шорген – актрыса, пісьменніца, кансультант са Швецыі. За гэты праект яна мае прэстыжныя ўзнагароды. П'еса «Сем» пабывала ў 30 краінах, перакладзеная на 24 мовы. Пастаноўку ўбачылі 25 тысяч гледачоў, ролі чыталі больш за 600 жанчын і мужчын. Сярод іх расійскі журналіст і тэлевядучы Уладзімір Познер, украінскі спявак Святаслаў Вакарчук, генералы НАТА, шведскія парламентарыі.



Уладзіслаў Лапо са знойдзенымі званамі.

# Будаваўся як каталіцкі, дзейнічаў як праваслаўны

## Крыху пра гісторыю Дубраўскага касцёла і знойдзеных званоў

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета ў маі ў друку і інтэрнэце паведамілі, што ў вёсцы Дубрава на Маладзечаншчыне знайшлі і аддалі на рэстаўрацыю званы з зачыненага ў 1948 годзе касцёла. Цяпер ад яго засталіся толькі сцены.**

### Як праз 70 год адшукалі званы

70 гадоў назад мясцовы жыхар **Уладзіслаў Лапо** іх падабраў, выкінутыя з храма, адвёз на кані і закапаў. А цяпер вырашыў, што прыйшоў час вярнуць гэты скарб людзям. Але ўзніклі цяжкасці. Бо хоць чалавек і добра ведаў месца, дзе ён іх у свой час закапаў, ды змяненні ў грунце не дазволілі адкапаць хутка.

Давялося звярнуцца да спецыялістаў. З іх дапамогай званы былі выкапаныя і аддадзеныя на рэстаўрацыю.

Званы з'яўляюцца адным з галоўных атрыбутаў праваслаўных храмаў. На гэтых, знойдзеных у нас, захавалася кляймо, якое сведчыць, што яны вылітыя ў Расіі, у Маскве.

### З гісторыі храма ў Дубраве

Першапачаткова храм у Дубраве будаваўся як каталіцкі. І фундатарам яго быў апошні мінскі ваявода Вялікага Княства Літоўскага **Адам Хмара**. Пасля паўстання **Кастуся Каліноўскага** храм амаль 50 гадоў дзейнічаў як праваслаўная царква. І толькі ў пачатку 20 стагоддзя зноў быў вернуты каталікам, пакуль яго канчаткова не зачынілі ў 1948 годзе.

Цяпер набажэнствы праводзяцца непадалёк ад паўразбуранага касцёла ў былой плябані. Службу праводзіць ксёндз з Краснага.

І вось тут мне б хацелася ўзгадаць пра апошняга пробашча разбуранага Дубраўскага касцёла **Яна Такарскага**. У нумарах 16 і 17 за 20 і 27 красавіка ў «Рэгіянальнай газеце» былі надрукаваныя ўспаміны пра пробашча Краснескага касцёла ад 1944 да 1968 года **Юзафа Марсангера**, які, дарэчы, і мяне хрысціў у далёкім 1952 годзе.

У артыкуле расказваецца, як Юзаф Марсангер дапамагаў Яну Такарскаму, калі той у 1954 годзе вярнуўся пасля васьмі гадоў зняволення і рэабілітацыі. Цікава даведацца, дзе зноў загучаць дубраўскія званы пасля асвячэння.

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**Навасёлкі-1,**
**Маладзечанскі раён.**

# Пра паэта, які чытаў вершы ў магазіне, на прыпынку, у электрычцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Некалі ў Дубраве жыў чалавек і ўсе яго звалі Паэт. Гэта мянушка так прыклеілася да яго, што часта замяняла і імя, і прозвішча.**

Нават мясцовага настаўніка Міхасёнка, які друкаваўся ў перыядычным друку, а ў канцы жыцця выдаў кнігу-зборнік, ніхто не зваў Паэтам. Сярод мясцовых ён так і застаўся Пеўнікам, бо па першай адукацыі выкладаў у Дубраўскай сярэдняй школе музыку і спевы.

### Пра п'янства, абжорства, амурныя справы

Дык чаму ж людзі ўсё-ткі згаданага чалавека называлі Паэтам? Ды таму, што ён на хаду складваў кароценькія вершы, з некалькіх рыфмаваных радкоў. Эпіграмы. Былі яны вострыя, з'едлівыя, з сатырай і гумарам. Перападала ўсім, хто быў побач – супрацоўнікам, суседзям, непасрэднаму начальству.

Высмейвалася п'янства і абжорства, падман і плёткі. Зладзействы, ашуканства, зайздрасць. Амурныя справы. Усё сцякалася ў рыфмаваныя радкі. Часта гэтыя рыфмы былі, як укол шпагі. Не шкадаваў і сябе. Вядома, не ўсім падабаваліся падобныя вершы, бо каму ж падабаецца праўда.

### Рэалізаваць талент

А дзе ж высокае, узвышанае? Усё гэта было ў першых юнацкіх вершах. Але яны, пасланыя да друку, атрымалі такую крытыку, што не тое, каб пісаць, але і за ручку брацца не захочацца. Ён больш і не браўся. А вось вусная творчасць засталася.

Свае вершы Паэт мог чытаць у любым месцы – у магазіне, на прыпынку электрычкі, у электрычцы. Аднойчы і я быў сведкам такога імправізаванага выступлення. Мяне зачапіла ўпамінанне ў яго нах вершах грэчаскіх філосафаў. Тады я запытаўся, дзе ён вучыўся. Паэт уздыхнуў і сказаў, што скончыў першы курс філфака пэдінстытута. Значыць, здольнасці ў чалавека ўсё ж былі.

Як важна ў жыцці, каб кожны рэалізаваў свой талент, бо колькі ў нас людзей з задаткамі паэтаў, мастакоў, спевакоў, музыкаў?!

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**Навасёлкі-1.**

● КАЛЯНДАР

**2 ЛІСТАПАДА**

**Дзяды.** Дзень памінання памерлых.

**1903.** 115 гадоў назад памёр **Адам Плуг**, польскі і беларускі пісьменнік, публіцыст. Нарадзіўся 23 кастрычніка 1823 года.

**3 ЛІСТАПАДА**

**1882.** Нарадзіўся **Якуб Колас**, народны пісьменнік Беларусі.

**1941.** Каля Уральска (Казахстан) памёр **Змітрок Бядуля**, беларускі паэт і празаік, мовазнаўца, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху.

**1923.** 95 гадоў назад у Мінску адкрытая першая на Беларусі працоўная ашчадная каса.

**4 ЛІСТАПАДА**

**1794.** Пры абароне Прагі (прадмесце Варшавы) загінулі **Якуб Ясінскі**, літоўскі і польскі вайсковы і палітычны дзеяч, інжынер, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, і **Тадэвуш Корсак**, дзяржаўна-вайсковы дзеяч. Пахаваныя пры касцёле «На Камёнцы» ў Варшаве.

**7 ЛІСТАПАДА**

Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі.

**85 гадоў** з дня адкрыцця (1933) у Мінску Дома ўрада.

**8 ЛІСТАПАДА**

**135 гадоў** з дня нараджэння **Вацлава Ластоўскага** (1883 – 1938), беларускага палітычнага дзеяча, гісторыка, этнографа, пісьменніка, філолага, акадэміка Акадэміі навук Беларусі.

**70 гадоў** з дня нараджэння **Аляксандра Бяспалага** (1948–2016), беларускага акцёра, рэжысёра, заслужанага артыста Беларусі. Таленавіты акцёр і рэжысёр, за гады працы ім створана больш за 130 кінавобразаў. Здымачную пляцоўку ў розны час дзяліў са знакамітымі Зінаідай Кірыенкай, Яўгенам Мацвеевым, Уладзімірам Гасцюхіным. Здымаўся і ў легендарнага рэжысёра Сяргея Бандарчука ў тэлесерыяле «Ціхі Дон».

Сёлета спаўняецца **285 гадоў** з дня нараджэння палітычнага і грамадскага дзеяча на Беларусі і ў Літве **Антонія Тызенгаўза** (1733–1785). Загадваў дзяржаўным скарбам у Вялікім Княстве Літоўскім, быў гродзенскім старастам. Заснавальнік мануфактур, шэрагу асветных і культурных устаноў у Гродне (капэла, школы, тэатр), ініцыятар першага на Беларусі перыядычнага выдання «Газеты гродзенскай», ініцыятар будаўніцтва гродзенскіх палацаў, інш. Апошнія гады жыцця правёў у Паставах.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# У Маладзечна з'явілася крэатыўная карта

МАЛАДЗЕЧНА

**27 кастрычніка для маладзечанцаў прэзентавалі карту горада. Гэта першая карта Горада Сонца, якая б паказвала крэатыўныя месцы.**

Арганізатары пастараліся зрабіць атмасферу свята як мага больш творчай і разняволенай. У «РэдБары» расставілі карціны, перад афіцыйнай часткай і пасля яе ігралі музыкі. Дзеці танцавалі проста на сцэне ці гулялі ў зале. А мастак **Ягор Арцюхоў** намаляваў карціну, пакуль ішло свята.

Вядучы імпрэзы **Данік Макаёнак** заражаў пазітывам. Як толькі ён вымаўляў сігнальны выраз «Горад Сонца», зала ахвотна апладзіравала ў адказ.

Стваральнікі праекта **Валянціна Сідоркіна** і **Ганна Холад** расказалі гасцям, для чаго задумалі менавіта гэты праект.

**Такая карта аднязначна будзе неабходная турыстам. Адкуль жа ім яшчэ з аднаго месца даведацца пра ўсе фішкі мясцовасці, зразумець, куды ісці, каб па-сапраўднаму адчуць горад.**



Удзельніца прэзентацыі разглядае крэатыўную карту.





Ганна Холад (злева) і Валянціна Сідоркіна – стваральнікі крэатыўнай карты.



Проста падчас прэзентацыі мастак Ягор Арцюхоў стварыў карціну.



Дызайнер карты Эліна Ілаш.



Дзеці лёгка знаходзілі сабе занятак на вечарыне. То гулялі, то танцавалі пад жывую музыку.

Падчас падрыхтоўкі жанчыны апытвалі мясцовых жыхароў. Сумесная праца над пошукам крэатыву ў Маладзечне дапамагла самім гараджанам пераасэнсаваць сваё стаўленне да роднага горада. Калі раней ён мог падавацца шэрым і несяброўскім, то чым больш пра яго даведваліся, тым ярчэйшым ён падаваўся. І гэтым новым поглядам яны захацелі заразіць іншых.

Дызайнерам карты стала **Эліна Ілаш**. Яна намалявала яркі, запамінальны вобраз горада. Пакуль надрукавалі 100 экзэмпляраў карты.

У будучым плануюць пераўдаваць з дапоўненай інфармацыяй. Створаць таксама анлайн-версію.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

# Фатаграфаваць самы стары вяз краіны прыязджаў беларускамоўны амерыканец

МАЛАДЗЕЧНА

**27 кастрычніка ў вёсцы Верхнія Талуі адбыўся суботнік. Удзельнікі прыбіралі тэрыторыю і садзілі новыя дрэвы.**

Даехаць да знакамітага вяза было не так і проста – восеньская дарога размытая. Асфальту няма, а ямы даўно не пасыпалі. Мясцовыя жыхары напісалі калектыўны зварот з просьбай да камунальных службаў зрабіць дарогу да найстарэйшага вяза краіны.

Некалькі тыдняў таму Маркаўскі сельвыканкам арганізаваў работы па расчыстцы вадаёма. З-за таго, што дно вадаёма было напоўненае глеем, вада з яго не магла патрапіць да каранёў. Таму вязу не хапала сілкавання. З-за гэтага дрэва пачало сохнуць у мінулым годзе.

Каб працягнуць яму жыццё, адказныя службы аператыўна адрэагавалі на публікацыю ў «Рэгіянальнай газеце» пра становішча дрэва. Глей вычысцілі і вывезлі на палі для ўгнаення. Вадаём аказаўся атмасфернага напаўнення. Гэта значыць, што яго напаўняюць не падземныя воды, а ўнутры збіраюцца воды ад дажджоў і талага снегу.

### Заклалі алеі

Пасля працы спецыяльнай тэхнікі тэрыторыю трэба было прыбраць. Таму ў суботу інспекцыя аховы прыроды і сельвыканкам арганізавалі прыборку. На тэрыторыі сабралі смецце, разраўнялі зямлю. Апалае лісце не чапалі – яно будзе добрым угнаеннем для дрэва.

Па абодвух баках пасадзілі маладыя саджанцы. З аднаго боку ад знакамітага дрэва заклалі ліпавую алею, з іншага – маладых вязаў. А ў цэнтры – знакамітае дрэва.

Вясной плануюць зрабіць да вадаёма каналы, каб вада ад дажджоў і снегу сцякала менавіта сюды. Тэрыторыю добраўпарадкуюць, зробяць газон вакол вадаёма, недалёка ад дрэва паставяць лаўкі ці альтанку. Каб сюды маглі прыехаць госці і палюбавацца знакамітым дрэвам.

Падчас прыборкі мясцовыя жыхары расказвалі, што пасля публікацыі пра знакаміты вяз у вёску прыехаў турыст. Хадзіў вакол, фатаграфаваў. Сказаў, што прыехаў у Беларусь з Амерыкі.

**Прачытаў пра рэдкае дрэва – і не мог не пабачыць яго на свае вочы. А з мясцовымі замежны госць размаўляў на бліскучай беларускай мове.**

Прыязджалі госці з Маладзечна і іншай мясцовасці.

Начальнік інспекцыі аховы прыродных рэсурсаў адзначыў, што ўзрост дрэва Акадэмія навук усё ж вызначыла. Дрэву не 700, а 250 год. Яно ўсё роўна застаецца найстарэйшым у Беларусі і адным з самых старых вязаў Еўропы. Прычына ў тым, што многія вязы ахапіла хвароба, якая знішчыла амаль усіх прадстаўнікоў гэтага дрэва ў Еўропе.

Мяркуецца, што ў наступным годзе дакументы будуць гатовыя і дрэва атрымае статус помніка прыроды рэспубліканскага значэння.

Цяпер ідзе падрыхтоўка кампаніі па зборы грошай на аплату работ, праведзеных па добраўпарадкаванні тэрыторыі вакол знакамітага вяза. Сачыце за сітуацыяй у «Рэгіянальнай газеце».

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Любоў Шапуцька за ткацкім станком.



Мясцовыя дзеці частуюцца чаем.



Слухач семінара.



Палымяна выступае Васіль Грынь.



Гаспадыня сядзібы «Дайнаўскі двор» Юлія Літвінава.



Захавальніца музея ў Дубіне Тамара Каляда (справа).



Сэлфі на фоне дома былога настаўніка Васіля Рагеля.

# У Дубіне зладзілі вечарынку ў даўнейшым стылі

**Пакуль у суседнім пакоі госці абмяркоўвалі праблемы працы і заняткаў у вёсцы, Любоў Шапуцька не адыходзіла ад кроснаў. Аснова ў іх сапраўдная, толькі некаторыя дэталі дадалі для рэстаўрацыі:**

**– У маладосці мы аж ненавідзелі гэтыя кросны, столькі часу займалі. А цяпер як хораша юнацтва прыгадаць, столькі год не ткаўшы. А рукі ж помняць...**

ВАЛОЖЫН

Семінар і вечарыну ў традыцыйным стылі зладзілі ў Дубіне Юрздыцкай Валожынскага раёна.

21 кастрычніка дом былога настаўніка **Васіля Рагеля** быў поўны гасцей. Спачатку актывісты абмяркоўвалі з юрыстам з Мінска **Міколам Арцюховым** праблемы развіцця традыцыйнай дзейнасці. Удзельнікі разглядалі рамесніцтва, асабістыя гаспадаркі і аграэкатурызм як магчымасць дадатковага заробку ў сельскай мясцовасці.

Палымяна выступіў гаспадар сядзібы «Засценак Скрыплеў» **Васіль Грынь**. Ён адзначыў, што, з аднаго боку, дзяржава заахвочвае аднаўляць вёску і займацца аграэкатурызмам. Але, з іншага, у гэтай справе ёсць шмат заканадаўчых хібаў, якія не дазваляюць гаспадарам развівацца. Напрыклад, калі засяляецца замежны госць, гаспадар павінны папрасіць яго запоўніць адмысловыя дакументы і завезці іх у аддзел па міграцыі.

Гэты аддзел месціцца ў райцэнтры, да якога Грыню ехаць 22 кіламетры. Замест таго, каб размясціць госця, паслаць яму, прыгатаваць ежу, трэба займацца паперкамі. І ўсё роўна можна не паспець у час. Для чаго гэты кантроль – незразумела. Каб уехаць у Беларусь, замежнікі і так праходзяць дасканалую праверку.

Яшчэ адзін момант – візы. Калі для турызму ў Гродне яны не трэба, то на Валожыншчыну без іх ніяк. Зразумела, што далёка не кожны будзе губляць час на тое, каб аформіць візу ў Беларусь. Гэта, па меркаванні Грыня, зусім не дадае паспяховасці аграбізнесу і турызму.

## Бабулі танцавалі да ночы

Другой часткай сустрэчы стала вечарынка. Сабраліся як мясцовыя жыхары, так і прыезджыя. Захавальніца дома-музея Васіля Рагеля **Тамара Каляда** патлумачыла, што ў даўнейшыя часы музыкаў запрашалі хлопцы, а дзяўчаты павінны былі арганізаваць хату.

У Дубіну завіталі выступіць спеўны гурт «Мярэжа», музыкі **Настасся Шпілеўская** з Маладзечна, **Дар'я Зуева** і **Сяргей Сухі** з Мінска. Выступілі і мясцовыя – Васіль Грынь і гаспадар экасядзібы «Дайнаўскі двор» **Змітро Мурашка**. Ён жа арганізаваў чаяванне з самаварам для перапынкаў.

Удзельніца аб'яднання «Бацькаўшчына» Любоў Шапуцька – адна з мясцовых жыхарак, якая актыўна ўдзельнічала ў вечарынцы і танцавала аж да самага канца. Разышліся госці толькі пасля 22 гадзін.

## Музей у доме настаўніка

Дом, у якім адбылося свята, гэта былое жыллё дубінскога настаўніка Васіля Рагеля, які працаваў ад 1901 года. Музею дом падарыў нашчадак настаўніка.

У будучым тут будуць праводзіць майстар-класы па навучанні традыцыйным рамёствам. Калі вы хочаце далучыцца, тэлефануйце Тамары Уладзіміраўне Калядзе (8-029 977-11-80) або Зміцеру Мурашку (8-029 756-0-753).

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Смаргонь» роўна згуляла з «Нафтанам»

СМАРГОНЬ

«Мядзведзі» прымалі дома наваполацкую каманду 27 кастрычніка.

На 12-й хвіліне гол у вароты саперніка забіў **Павел Дзямідчык**.

У адказ з боку «Нафтана» гол у вароты гаспадароў заляцеў на 43-й хвіліне. Гульня скончылася з лікам 1:1.

Па выніках розыгрышу 28 тура «Смаргонь» апускаецца на 11-е месца ў турнірнай табліцы. Яе абагнала каманда з Жыткавічаў на адно ачко.

## «Чысць» саступіла «Оршы»

МАЛАДЗЕЧНА

На дамашнім стадыёне чысціцы прымалі гасцей з Оршы 27 кастрычніка.

Гульня скончылася з лікам 2:3 на карысць гасцей.

Галы з боку гаспадароў забілі **Мікіта Мятліцкі** на пятай хвіліне і **Сяргей Мельнік** на 28-й.

Па выніку тура «Чысць» застаецца на апошнім, 15-м, радку турнірнай табліцы.

**Аддзел інфармацыі.**

| | Команды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Славия (Мозырь) | 26 | 19 | 7 | 0 | 60-10 | **64** |
| 2 | Энергетик-БГУ (Минск) | 26 | 19 | 4 | 3 | 60-22 | **61** |
| 3 | Белшина (Бобруйск) | 26 | 17 | 4 | 5 | 56-22 | **55** |
| 4 | Лида | 26 | 16 | 4 | 6 | 40-17 | **52** |
| 5 | Нафтан (Новополоцк) | 26 | 9 | 10 | 7 | 27-24 | **37** |
| 6 | Локомотив (Гомель) | 26 | 9 | 10 | 7 | 40-27 | **37** |
| 7 | Гранит (Микашевичи) | 27 | 8 | 11 | 8 | 28-30 | **35** |
| 8 | Слоним-2017 | 26 | 9 | 7 | 10 | 36-36 | **34** |
| 9 | Химик (Светлогорск) | 26 | 8 | 5 | 13 | 29-38 | **29** |
| 10 | ЮАС (Житковичи) | 26 | 6 | 10 | 10 | 21-31 | **28** |
| 11 | Сморгонь | 26 | 6 | 10 | 10 | 18-39 | **28** |
| 12 | Орша | 26 | 7 | 3 | 16 | 29-47 | **24** |
| 13 | Волна (Пинск) | 26 | 5 | 7 | 14 | 21-47 | **22** |
| 14 | Барановичи | 26 | 4 | 7 | 15 | 16-35 | **19** |
| 15 | Чисть | 27 | 1 | 7 | 19 | 30-86 | **10** |

Ілюстрацыя football.by.

Турнірная табліца першай лігі.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## «Ашмяны-БДУФК» прывезлі пройгрыш

АШМЯНЫ

На гульні 27 кастрычніка ашмянская каманда была на выездзе ў Стоўбцах.

Гульня скончылася з лікам 2:1 на карысць гаспадароў.

З боку ашмянцаў адзіны гол забіў **Януш Ладуцька** на 29-й хвіліне.

Каманда застаецца на трэцім радку турнірнай табліцы. Стаўбцоўскі «Нёман-Агра» займае 12-ы радок.

## «Маладзечна» абыграла «Клецк»

МАЛАДЗЕЧНА

Каманда выступала на выездзе ў Клецку 27 кастрычніка.

Адзіны гол за гульню забіў **Павел Галубовіч** на 88-й хвіліне. Гэта і прынесла маладзечанцам перамогу.

Каманда займае дзясяты радок у турнірнай табліцы.

**Аддзел інфармацыі.**

| | Команды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Рух (Брест) | 26 | 21 | 4 | 1 | 81-16 | **67** |
| 2 | НФК Крумкачы (Минск) | 26 | 21 | 3 | 2 | 73-14 | **66** |
| 3 | Ошмяны-БГУФК | 26 | 18 | 1 | 7 | 81-30 | **55** |
| 4 | Спутник (Речица) | 26 | 16 | 4 | 6 | 68-21 | **52** |
| 5 | Ивацевичи | 26 | 11 | 6 | 9 | 45-36 | **39** |
| 6 | Осиповичи | 26 | 11 | 6 | 9 | 48-38 | **39** |
| 7 | Узда | 25 | 11 | 4 | 10 | 51-44 | **37** |
| 8 | Виктория (Марьина Горка) | 27 | 10 | 5 | 12 | 36-47 | **35** |
| 9 | СМИавтотранс (Смолевичский р-он) | 26 | 9 | 4 | 13 | 29-53 | **31** |
| 10 | Молодечно | 27 | 7 | 7 | 13 | 42-62 | **28** |
| 11 | Клецк | 25 | 7 | 4 | 14 | 30-53 | **25** |
| 12 | Неман-Агро (Столбцы) | 26 | 7 | 4 | 15 | 34-90 | **25** |
| 13 | Энергетик-БГАТУ (Минск) | 26 | 6 | 4 | 16 | 38-60 | **22** |
| 14 | Горки | 26 | 5 | 6 | 15 | 35-65 | **21** |
| 15 | Бумпром (Гомель) | 24 | 2 | 2 | 20 | 18-80 | **8** |

Ілюстрацыя football.by.

Турнірная табліца другой лігі.




Мадэлі, якія ўразілі найбольш, здымалі на тэлефон. Ці не для таго, каб зрабіць нешта падобнае.

# У басейне запускалі падводныя лодкі

## У Маладзечне правялі рэспубліканскія спаборніцтвы па суднамадэляванні

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Рэспубліканскія спаборніцтвы суднамадэлістаў «Юнга-2018» зладзілі 27-29 кастрычніка ў цэнтры творчасці дзяцей і моладзі «Маладзік» у Маладзечне.**

### Караблі будуюць і дзяўчаты

Юных суднамадэлістаў горад прымае амаль 30 год. Сёлета ў Маладзечна прыехалі навучэнцы з Мінска, Слуцка, Гомеля, Гродна, Навагрудка, Ліды. Самыя блізкія ўдзельнікі – з Вілейкі і Маладзечна. Самыя далёкія – са Смаленска.



Удзельнічала 14 каманд, куды ўвайшлі 102 навучэнцы.

Па традыцыі, суднамадэляванне ўспрымаюць як занятак для хлопчыкаў. Аднак стэрэатыпы развянчалі **Варвара Свароў** з Навагрудка, **Кацярына Нікалаева** са Смаленска і слуцчанка **Валерыя Махлай**, майстар спорту па суднамадэляванні.

Адкрыў спаборніцтвы прадстаўнік ДТСААФ **Артур Качаноўскі:**

– Ва ўсіх вас цудоўныя макеты караблёў, – звярнуўся ён да ўдзельнікаў. – Але мала зрабіць добры макет. Галоўнае, каб ваш карабель без памылак прайшоў дыстанцыю. Жадаю вам спартыўных дасягненняў і рэкордаў.

Астатнія выступоўцы жадалі юным удзельнікам поспехаў, павышэння разрадаў і новых сяброў. Навучэнкі «Маладзіка» аздобілі цырымонію адкрыцця прыгожымі словамі і музыкай. Адзначыўшы, што Маладзечна называюць Горадам Сонца, вядучая ўсім пажадала сонечнага настрою.

### Аляксей Васільеў: смела аддавайце дзіця ў суднамадэльны гурток

Нязменны галоўны суддзя спаборніцтваў **Аляксей Васільеў** усцешаны, што колькасць удзельнікаў спаборніцтваў год ад году не змяншаецца. Адзначае, што самы адказны заўсёды другі дзень мерапрыемства – старты. Тады ў басейне санаторнай школы-інтэрната ўдзельнікі запускаюць свае караблі.

На думку Аляксея Васільева, заняткі суднамадэляваннем карысныя для дзіцяці. Яно навучыцца майстраваць, працаваць з лобзікам, зразумее чарцяжы. Гэтыя ўменні спатрэбяцца па жыцці нават тады, калі малады чалавек не зробіць будаўніцтва караблёў сваім асноўным заняткам.

### Першакласнік Раман ужо прыдумаў мадэль для спаборніцтваў

Вілейшчыну прадставіў педагог з Чурлёнаў **Аляксей Роліч** са сваімі навучэнцамі. Хлопцы будуюць караблі другі год. Па выніках спаборніцтваў, каманда стала дзявятай.

Прызавыя месцы размеркаваліся наступным чынам. Першай стала каманда са Слуцка, другой – з Гродна. Бронзу спаборніцтваў узялі маладзечанцы. Гледачоў на адкрыцці было няшмат. Пераважна – удзельнікі, педагогі і зацікаўленыя асобы. Паглядзець на караблі прыйшла маладзечанка **Вольга Роўда** з сынам, першакласнікам **Раманам**.

– Рома займаецца суднамадэляваннем першы год у педагога «Маладзіка» **Мікалая Хрэшчыка**. Адразу пайшоў у школу і ў гурток. Нам яшчэ далёка да такіх спаборніцтваў, але прыйшлі паглядзець, бо сыну гэта падабаецца. Суднамадэляваннем зацікавіўся летам, калі ў парку былі паказальныя выступленні маладзечанскіх спартсменаў. Цяпер Рома будуе паруснік. І ўжо выбраў мадэль, з якой паўдзельнічае на спаборніцтвах у наступным годзе, – распавяла Вольга.

– Колькі часу трэба рабіць карабель? – пытаюся ў хлопчыка.

– До-о-ўга… – цягне той.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Покрыўка кнігі, сшытка.
3. Асоба малодшага медыцынскага персаналу ў лячэбных установах, якая даглядае хворых і раненых, сочыць за чысцінёй у палатах.
5. Філосаф казаў: "Найбольшай хібай розуму з'яўляецца яго …".
9. Жартоўная п'еса, у якой дыялогі чаргуюцца з песнямі.
11. Размер заработнай платы, устаноўлены ў адпаведнасці з пасадай работніка.
12. У грэчаскай міфалогіі гэтага бога называлі Дэльфінам.
13. Саюз, арганізаваны на аснове дагаворных абавязацельстваў.
14. Французская мадэль мае выхад ззаду, а нямецкая – спераду. Амерыканская ж пастаянна трымае ваду.
17. У геральдыцы нож – знак вайны, відэлец – гарнавіцы. А сімвалам чаго з'яўляецца лыжка?
21. Тое, што і скронь.
22. Гарчыца, шафран, перац.
23. Ніткападобная эластычная пасма расліннага, мінеральнага або штучнага паходжання, з якой вырабляюць пражу, вату.
24. Вызначэнне месцазнаходжання аб'екта.
25. Пахілая паверхня гары, берага.
28. Узаемныя адносіны.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. У ЗША забароненыя дзверы, зробленыя толькі з гэтага матэрыялу.
4. Заўзятасць, гарачнасць, моцнае захапленне.
6. Пісьмовы знак азбукі, які звычайна абазначае пэўны гук мовы.
7. Рэзкі, кароткі рух.
8. Тодар Кляшторны: «Мне не шкада, што … палачэчуць, Узбіў душу на стынучую квецьь».
10. Ліст назваў гэты інструмент каралём усіх інструментаў.
15. Шахматная фігура ў форме вежы, якая ходзіць удоўж і ўпоперак дошкі па прамой; тура.
16. Славянскія плямёны эпохі першабытнаабшчыннага ладу, якія на рубяжы нашай эры насялялі тэрыторыю ад Эльбы да Дняпра.
17. На грэчаскай мове гэта слова значыць «адзінокі».
18. Збудаванне ў выглядзе раду ступенек для пад'ёму і спуску.
19. Салёная вада з вострымі прыправамі для засолкі, вымочвання харчовых прадуктаў.
20. Спецыяльнае памяшканне, дзе мыюцца і парацца.
26. Тым не менш, усё ж, усё-такі.
27. Зменены адчувальнасць ці рэактыўнасць арганізма на паўторнае дзеянне некаторых рэчываў.

## Адказы на крыжаванку з №43

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Прага. 4. Пасол. 5. Драздовіч. 8. Перон. 10. Кракаў. 12. Рубрыка. 13. Рогат. 15. Посуд. 16. Юнацтва. 19. Саламандра. 21. Учыніць. 22. Швецыя. 25. Квіток.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Сабор. 2. Пасада. 6. Ювелір. 7. Парасон. 9. Стракаты. 11. Ромб. 13. Руно. 14. Ушчэнт. 16. Юрыст. 17. Парахня. 18. Ухіл. 20. Сажалка. 21. Усмешка. 23. Віцебск. 24. Рывок.



## ГАРАСКОП 2-8 ЛІСТАПАДА



**АВЕН.** Гэты час – эмацыйная перадышка, якая дазволіць вам рухацца далей. І калі вонкава падзеі будуць праяўляцца не так ярка, унутры вас змены будуць кіпець.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам цяпер усе будуць пляскаць у далоні. Пасля дасце магчымасць адпачыць сваім мазгам. Падымецца і рамантычны настрой, што дазволіць завесці новыя знаёмствы або проста прывесці да ладу свой душэўны стан.



**БЛІЗНЯТЫ.** Не ўскладайце на сябе вялікі аб'ём работы. Перагрузкі могуць падарваць ваш стан, бо энергіі можа спатрэбіцца больш, чым у вас ёсць, а кінуць пачатыя справы, ці хаця б адну з іх, вам будзе цяжка.



**РАК.** Будзьце ўмераныя ва ўсіх справах. Вас могуць ахапіць яркія пачуцці, вам захочацца стварыць сям'ю або пачаць нейкую новую справу – ці ў асабістым жыцці, ці бізнесе. Але не страцьце кантроль над сваімі жаданнямі і думкамі. Адзіны спосаб трымаць сябе ў рамках дазволенага – кожны раз глядзець на сябе з боку.



**ЛЕЎ.** Галоўным пытаннем гэтых дзён будзе ваш матэрыяльны дабрабыт, а таксама ўсе падзеі, звязаныя з каштоўнасцямі, нерухомасцю і працай у гэтым аспекце. Такое становішча спраў дазволіць вам некалькі падправіць сваё фінансы. Але будзьце асцярожныя ў сваіх памкненнях.



**ДЗЕВА.** Перад вамі адкрываюцца новыя гарызонты, якія дазволяць вам выправіць сваё становішча. Вам неабходна сабрацца і пачаць рухацца ў абраным кірунку, а не адступаць. І каб не ўпусціць магчымасці – ніякіх негатыўных думак, ніякага негатыўнага эмацыйнага настрою.



**ШАЛІ.** Вельмі спрыяльны час для асабістых спраў, для наладжвання адносін у сям'і, а самае галоўнае, для новых рамантычных знаёмстваў, якія пасля могуць абярнуцца для вас шлюбам. Дні нясуць не толькі спрыяльныя эмоцыі, але і стабільнасць ва ўсіх справах, поспех і ўпэўненасць ва ўласных сілах.



**СКАРПІЁН.** Вялікі ўплыў на ваша жыццё будуць аказваць жанчыны, часам яны будуць строгія да вас. Праяўляйце цярпенне, успрымайце досвед іншых людзей, выконвайце ўказанні. Гэты ўплыў спрыяльны і вядзе да паляпшэння вашага жыцця.



**СТРАЛЕЦ.** Перад вамі можа стаяць няпросты выбар і ад гэтага выбару можа залежаць тое, як будуць развівацца падзеі наступных дзён.



**КАЗЯРОГ.** Вы можаце сутыкнуцца з рознымі перашкодамі на вашым жыццёвым шляху. Прычынай гэтаму могуць стаць вашы легкадумныя паводзіны. Звярніцеся да свайго розуму, бо рашэнне будзе даступнае толькі пасля сур'ёзнага лагічнага разважання. І трымайце эмоцыі і пачуцці пад кантролем.



**ВАДАЛЕЙ.** Перад вамі адкрываюцца перспектывы нядрэннага заробку, але пастаянныя перашкоды з боку іншых людзей могуць перашкодзіць вам дасягнуць гэтай мэты. Будзьце рашучыя і хітрыя.



**РЫБЫ.** Вас чакаюць цяжкасці ў прасоўванні наперад. Праблемы, можа, і нязначныя, і кожная паасобку не вартая ні вашага часу, ні сіл, але калі як яны наваляцца на вас разам, то могуць аказаць сур'ёзнае ўздзеянне. Дзейнічайце стрымана і разумна.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | 8 | 3 | | | | 9 |
| | | | | 6 | | 5 | | 3 |
| | | 4 | 7 | 5 | | | 8 | |
| 1 | | | 6 | | 3 | | 9 | |
| | | | 2 | 9 | 4 | | | 1 |
| | | 9 | | 8 | | | 6 | |
| | | | | 2 | | | 1 | |
| 2 | | | | 4 | 7 | | | |
| | 5 | 7 | 3 | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

- **Быць празмерна ветлівым – бывае і такое. Гэту з'яву вы сустрэнеце ў Іране. А калі вы пахваліце нечае ўпрыгажэнне, то гаспадар падорыць яго вам. Маладзечанка Настасся Курменева ўжо некалькі месяцаў жыве ў гэтай экзатычнай краіне. Як так атрымалася, чым здзівіў яе Іран і ці варта верыць стэрэатыпам, чытайце ў наступным нумары.**



## 3 лістапада, субота




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -15,6°С у 1979 годзе
Максімальная тэмпература +14,8°С у 1967 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,7 мм у 1969 годзе

Паводле meteoinfo.by.



## Чай і свежая газета – будзе восень, быццам лета



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## Далучайцеся да акцыі «Супергаспадар»

Да 19 лістапада мы прымаем фотаздымкі для акцыі «Супергаспадар». Дасылайце здымкі ўраджаю, участка, знаходак для дома ці проста гаспадаркі на адрас **regionnews@rh.by.**

Неабходна дасылаць адно фота ад аднаго чалавека. Мы размесцім іх для галасавання на сайце **rh.by,** і тыя, хто назбіраюць найбольшую колькасць галасоў, атрымаюць падарунак.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы ад 28 верасня да 19 лістапада. Пасля мы размесцім на нашым сайце **rh.by** галасаванне, якое будзе доўжыцца ад 22 лістапада да 13 снежня. А 14 снежня мы абвесцім вынікі акцыі.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра сваё фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапушчаны не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце «Супергаспадар».

## Пачалося галасаванне за лепшае фота акцыі «Не губляй ніводнага дня!»

Ад 1 лістапада на сайце **rh.by** можна галасаваць за фота, якое вам падабаецца найбольш.

Галасаванне будзе закрытае раніцай 19 лістапада. У гэты ж дзень мы абвесцім пераможцаў.

З дасланых фотаздымкаў калектыў рэдакцыі абярэ адзін, які размесцім на фірменным каляндары «РГ» на 2019 год. Той, хто даслаў здымак, які выбера рэдакцыя, таксама атрымае падарунак.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Ці хацелі б вы жыць у вёсцы?



**Сяргей Бабаян, юрыст, Маладзечна:**

– Не хачу. Перш за ўсё, з-за сваёй працы. Практыкую ў сферы аказання паслуг для бізнесу. Акрамя юрыспрудэнцыі нічога не ўмею, ды і не хачу. Вёска ў бліжэйшыя гадоў 20-30 дакладна не для мяне. Мне вельмі камфортна ў такім горадзе, як Маладзечна.



**Ганна Каратай, у дэкрэтным адпачынку:**

– У вёску б не пераехала, але домік за горадам вельмі хочацца, у вялікім горадзе таксама наўрад ці жыла б, рытм вялікага горада неяк не па мне. Ідэальны варыянт для мяне жыць у такім горадзе, як Маладзечна, дзе ўсе побач і няма такой мітусні, як у вялікім горадзе.



**Настасся Васількова, выкладчык лацінскай мовы:**

– Я тыповы гарадскі жыхар, хаця ўсё дзяцінства правяла ў вёсцы ў бабулі. І цяпер прыязджаю ў вёску, але ўжо з мужам і дачкой, і мы з задавальненнем праводзім час на прыродзе. Але хутка мне пачынае не хапаць сваёй кватэры, выгод, крам, проста нейкага руху.



**Арцём Белавус, гандлёвы прадстаўнік:**

– Не хацеў бы з'язджаць з Маладзечна. Але калі бываю ў вёсцы ў гасцях – вельмі падабаецца. А так, усё залежала б ад умоў. Можна жыць і ў вёсцы, калі ёсць камунікацыі.



**Вольга Путырская, педагог:**

– Мы з мужам марым пра пераезд у вёску, але каля вялікага горада. Любім прыроду, свежае паветра, працаваць на зямлі. Для дзяцей гэта лепшыя ўмовы, але не хочацца іх пазбаўляць гарадскіх выгод, таму і думаем пра пераезд недалёка ад горада.



**Аляксандр Капуцкі, праваабаронца:**

– На вёску пагадзіўся бы, далей ад гарадской мітусні і бліжэй да прыроды. А вось вялікі горад не выбраў бы ні за што.



**Вікторыя Юркевіч, у дэкрэтным адпачынку:**

– Ужо тры гады жывём у вёсцы, пераехалі ў Маліноўшчыну. Вёску абралі менавіта таму, што ёсць магчымасць дыхаць свежым паветрам і жыць у гармоніі з прыродай. Дзецям у вёсцы раздолле: улетку цэлымі днямі праводзяць на вуліцы. І дарослым заняткаў хапае.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№44 (1227) 2.11.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1041. Падпісана ў друк у 9.00 1.01.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.